

Газета заснавана ў 1938 годзе.
Аднаўлена ў 1997 годзе.

# Газета Слонімская

№ 28 (109). 8 — 14 ліпеня 1999 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах. Кошт 25.000 руб.

## МЫ ШАНУЕМ ВАС, ВЕТЭРАНЫ!



Фота Мікалая СУПРУНА

Працяг тэмы на стр.2

АКТУАЛЬНО

## МИНСК ОЧЕНЬ ТОРОПИТСЯ

**В последнее время ведется очень много разговоров о создании нового государства — объединения Беларуси и России в одну страну.**

Называются разные проекты, обсуждаются формы слияния, дискутируются полномочия руководителей нового образования и т.д.

Случайно ли все это?

По всему видно, что стороны, особенно белорусская, очень и очень торопятся. Объяснение поспешности лежит на поверхности — по Конституции, принятой в 1994 году, 20 июля станет последним днем легитимного президентского правления Александра Лукашенко. И хотя трудно предполагать, что 21 июля в стране что-то кардинально изменится, тем не менее все понимают: документы, подписанные по истечении этого срока, в будущем при желании или необходимости легко можно будет признать незаконными, со всеми вытекающими из такого решения последствиями. И хотя, говоря о продлении своих полномочий, президент Беларуси всюду ссылается на результаты ноябрьского (1996 года) референдума, нельзя забывать, что международные организации итоги этого референдума не признали. Отсюда и страшная спешка, ибо дополнительные хлопоты не нужны ни самому Лукашенко, ни сторонникам объединения в Москве. Хотя, конечно, если необходимые документы не будут подписаны до 21 июля, это вовсе не означает, что они не будут подписаны позже.

Главным «локомотивом», который может привезти Александра Лукашенко в Москву, является Парламентское собрание Союза Беларуси и России. Именно эта организация 2 июля на сессии в Минске рассматривала документы о создании единого союзного государства Беларуси и России.

Заседание началось с выступления президента Беларуси. По его словам, руководство Беларуси предложило «модель сильного государства с реальными полномочиями органов, необходимыми для эффективной реализации поставленных перед нашими странами задач», а также «соответствующую структуру уравновешивающих друг друга органов союзного государства», призванную обеспечить выполнение тех функций, которые обе страны согласятся делегировать наднациональным органам.

Однако эта модель не была принята российской стороной. Такая позиция, считает А.Лукашенко, объясняется неготовностью России не только ко внесению изменений и дополнений в свою Конституцию, но и «реально двигаться в этом направлении». Белорусский президент сообщил, что по окончании последних переговоров с российской стороной о проекте договора, состоявшихся «позавчера», он «категорически запретил должностным лицам Беларуси впредь инициировать какие-то процессы в Союзе Беларуси и России».

*(Продолжение на стр.4)*

НАВІНЫ

### Гарэлка "Сікорскій" знята з вытворчасці

**Пра гэта карэспандэнту "ГС" паведаміў загадчык вытворчасці Слонімскага вінзавода Мікалай Суша.**

Ён сказаў, што з 1 ліпеня гарэлку ў Гродзенскай вобласці пачалі выпускаць толькі спецыялізаваныя прадпрыемствы. Гэта Гродзенскі і Маламажэйкаўскі лікёра-гарэлачныя заводы. А Слонімскі вінзавод гарэлкі выпускаць больш ужо не будзе, у тым ліку і гарэлку "Сікорскій", а толькі пладова-ягадныя віны. Наладжаны выпуск новых гатункаў віна, сярод якіх "Арына", "Паланез", "Манастырскае" і іншыя.

На пытанне, дзе цяпер знаходзіцца былы дырэктар вінзавода Жан Сікорскі, Мікалай Суша адказаў, што ён лечыцца ў адной з мінскіх клінік.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Вялікае свята

**У Мастах напярэдадні 55-ай гадавіны вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў каля помніка загінуўшым воінам запалілі вечны агонь.**

Ён звычайна не гарыць, бо гарадскія ўлады эканомяць газ, але свята вымушае ўрачыстасці, і таму перад кожным дзяржаўным мерапрыемствам успыхвае вогненны факел. Сёлета ён, як ніколі, вялікі, сягае ў рост чалавека.

**Антон МАКЕЙ**

### За працу могуць не заплаціць

**Арыгінальны спосаб не плаціць за выкананую працу вынайшлі ў калгасе імя Чапаева Мастоўскага раёна.**

У гаспадарцы створана камісія, якая правярае якасць праполкі буракоў. І калі нейкая старая бабка, на думку камісіі, пакінула на сваёй дзялцы зашмат зелля, то яе ўвогуле пазбаўляюць аплаты.

**Антон МАКЕЙ**

### На вуліцы Яршова — блохі

**У падвалах дома №38, што на вуліцы Яршова, завяліся блохі. Іх столькі многа, што з падвалаў яны ўжо перабіраюцца ў кватэры.**

Жыхары гэтага дома збіраюць па 70 тысяч рублёў з кожнага жыхара кватэры, каб выклікаць санэпідэмстанцыю.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## ЗВЕРСКОЕ УБИЙСТВО

**Очередное жестокое убийство произошло в Слониме.**

Утром 30 июня в 150 метрах от железнодорожного моста через реку Щара, расположенного на ул. Огинского, был обнаружен труп молодой женщины. Её тело было буквально исполосовано ножом до неузнаваемости. Только спустя несколько суток человека по приметам опознал участковый инспектор милиции. Убитой оказалась 26-летняя жительница деревни Василевичи Ольга Герасимчик. По словам её отца, Ольга часто позволяла себе долгое время отсутствовать дома. На этот раз произошло нечто подобное, и поэтому родители особенно не тревожились её исчезновением. Но произошло самое страшное — её убили. Это уже второе садистское убийство. В ночь с 5 на 6 мая в городском парке мёртвой была обнаружена 17-летняя девушка. Почерк убийцы похожий. В связи с этим возникает вопрос:

***"ЧУВСТВУЮТ ЛИ СЕГОДНЯ СЛОНИМЧАНЕ СЕБЯ В БЕЗОПАСНОСТИ В НАШЕМ ГОРОДЕ?"***

С этим вопросом корреспонденты "ГС" и обратились к людям. Вот что они услышали:



**Работница ателье "Веснянка"**: — До недавнего времени считала себя в безопасности, а теперь, наверное, нет. Потому что вечером уже боязно... Я работаю в две смены и приходится поздно вечером идти домой одной.

**Жанна Зимницкая:** — Чувствую себя в безопасности потому, что никуда вечером не хожу... Сижу дома.

**Наталья Кучуро, *учащаяся медучилища:*** — Страшновато быть одной, когда ходят слухи про убийства. Тем не менее по вечерам всё равно гуляю, но не одна.



**Клавдия Владимировна Штерн:** — Вечером на улицу не выхожу, настолько напугана. В Слониме ребята пропадают, а ещё эти дикие убийства... Слава Богу, работаю в одну смену. А вот за своих детей боюсь...



**Пенсионер, *70 лет:*** — Днём хожу смело, а вечером стараюсь не выходить из дома. Не припомню, чтобы раньше в Слониме были такие убийства.

***Руслан и Инесса.*** Говорит Инесса: — Я считаю, что сегодня выходить поздно вечером в город одной просто опасно. В городе, хотя он и маленький, в последнее время происходит так много убийств...



***Саша и Андрей:*** — Чувствуем себя в безопасности, на свои силы надеемся.



Но по одному стараемся не ходить. Гуляем кампанией. И своих девушек одних никуда не отпускаем.

Более того, в редакцию газеты обратился житель Слонима Виталий Ешану. Он сказал, что горисполком принял решение, согласно которого рестораны будут работать до 2 часов ночи. В то время, как городские автобусы заканчивают курсировать в полночь. Виталий Григорьевич и задаёт вопрос: "Как можно женщине, которая работает в ресторане, ночью безопасно добраться домой?". Этот вопрос Ешану задал начальнику управления торговли горисполкома Владимиру Сороке. Он пояснил, что "если работницам ресторанов не нравится такой график работы, пускай увольняются". Путный ответ Виталий Ешану, по его словам, не получил и в приёмной председателя горисполкома.

**Сергей ЁРШ,**
**Николай СУПРУН (фото)**

# МЫ ШАНУЕМ ВАС, ВЕТЭРАНЫ!





**Два разы на год ветэраны вайны апранаюць свае святочныя касцюмы з узнагародамі і выходзяць на вуліцу. Дзень Перамогі, Дзень вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў — гэта іх святы. Ветэранам дораць кветкі, пяюць песні, пра іх піша прэса. Бо нялёгкім быў іх лёс. Яны перажылі вайну.**

**Мы шануем вас, ветэраны!**





Фотарэпартаж Мікалая СУПРУНА

# 80 ГОД ПРАЖЫЎ...

**За праполку буракоў у калгасе "Перамога" Слонімскага раёна калгаснікам дадаткова даюць яшчэ адну дзялку сена.**

Менавіта гэта акалічнасць стала прычынай непаразумення паміж сынам калгаснага ветэрана Мікалаем Юрчаком і старшынёй калгаса Аляксандрам Рахунком. Бацька Мікалая Юрчака Павел Дзмітравіч, інвалід вайны 2-ой групы, 47 гадоў адпрацаваў у калгасе даглядчыкам жывёлы, на пенсію выйшаў у 71 год. Палоць буракі ён ужо не можа, але карову яшчэ трымае. Сена яму не далі, бо буракі не палоў. І вось сын Паўла Дзмітравіча Мікалай Юрчак пайшоў па інстанцыях "шукаць справядлівасць". Апошнім яго візіт быў у рэдакцыю "ГС". І вось, што ён расказаў:

— Быў я ў старшыні калгаса. Ён катэгарычна адмовіў, сказаў, што сена даецца толькі за буракі. Тады я пайшоў да старшыні райвыканкама. Першы раз Станіслаў Здановіч паабяцаў, што "разбярэцца з Рахунком". Але старшыня калгаса пасля таго "разбору" паўтарыў старое: " Сена вашаму бацьку не будзе, бо не палоў буракі...". На наступны дзень я зноў пайшоў да Здановіча. На гэты раз Станіслаў Тадэвушавіч параіў касіць траву на няўдобіцах, у Равах (ёсць у нас такое месца). Я палічыў гэта за здзек і сказаў, што буду скардзіцца ў Мінск. На што ад старшыні райвыканкама пачуў: "Гэта ваша справа. Можаце скардзіцца куды хочаце..."

Старшыня райвыканкама Станіслаў Здановіч у тэлефоннай размове паведаміў карэспандэнту "ГС", што ў калгасе "Перамога", сапраўды, выдзяляліся дзялкі сена за прапаланыя буракі. Але гэта зусім не значыць, што тыя, хто не палоў буракоў, застануцца без сена — дзялкі будуць выдзелены ў агульным парадку.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

**НАВІНЫ**

## Новый областной начальник

**Аппарату Гродненского областного исполнительного комитета представлен новый первый заместитель председателя облисполкома Владимир Савченко, назначенный на эту должность президентом страны.**

До этого В.Савченко работал заместителем председателя Могилевского облисполкома. На новой должности он будет курировать агропромышленный комплекс Гродненщины.

Владимир Савченко родился в 1952 году в деревне Фроловка Костюковичского района Могилевской области, окончил БСХА по специальности инженер-землеустроитель. Был председателем колхоза «Путь коммунизма», затем — председателем Круглянского райисполкома. В 1996 году назначен заместителем председателя Могилевского облисполкома.

## Будет жарко, но не очень

**По прогнозам Республиканского гидрометцентра, среднемесячная температура воздуха в июле будет немного выше июньской.**

Слухи о якобы грядущей неимоверной жаре с температурами в 40-50 градусов не имеют под собой никаких оснований. «Мы исходим из того, что за более чем столетний период гидрометеорологических наблюдений самая высокая температура воздуха, зарегистрированная в Минске в июле 1936 года, составляла 35 градусов тепла», — сказал заместитель директора гидрометцентра Валерий Жуковский.

**БелаПАН**

**АКТУАЛЬНА**

***

**Някляеў у Польшчы,**
**Ў Фінляндыі Быкаў...**
**Хто гэта там пра свабоду чырыкаў?**
**Мы ад сваіх ланцугоў пажвавелі:**
**Ў Еўропу праз вокны ўваходзім —**
**Дзе ж дзверы?**

*Мікола КАНАНОВІЧ*

**ПАЛІТЫКА**

## Гарачы ліпень 1999-га

**Сёння палітычная сітуацыя ў Беларусі настолькі заблытаная, што нават палітолагі не спяшаюцца спрагназаваць яе развіццё пасля 20 ліпеня.**

Як вядома, Аляксандр Лукашэнка стаў прэзідэнтам Беларусі летам 1994-га на тэрмін 5 гадоў. 20 ліпеня 1999 года, згодна Канстытуцыі, ён павінен быў бы скласці свае паўнамоцтвы і, на выбар, вярнуцца ў родную вёску, або паспрабаваць яшчэ раз атрымаць давер народа. Лукашэнка выбраў трэці варыянт — ён яшчэ ў 1996 годзе, з дапамогай рэферэндума, працягнуў свае паўнамоцтвы на два гады. Цікава, што той рэферэндум прызнала толькі Расія. Гэта значыць, што пасля 20 ліпеня Аляксандра Лукашэнку прэзідэнтам будзе лічыць толькі Масква, а астатні свет — не. Беларусь можа трапіць не толькі ў эканамічную, але і ў палітычную ізаляцыю. У падобнай сітуацыі была Югаславія...

Беларуская апазіцыя, якая не мае доступу да тэлебачання, радыё і афіцыйных газет, спадзяецца на падтрымку Захаду, найперш, маральную. У траўні гэтага года яна праводзіла "прэзідэнцкія выбары", якія праз актыўнае супрацьдзеянне ўладаў не далі рэальнага выніку. Адзін з кандыдатаў у прэзідэнты (Зянон Пазьняк) знаходзіцца ў эміграцыі, другі (Міхаіл Чыгір) сядзіць у мінскай турме, а супраць старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктара Ганчара ўзбуджана крымінальная справа.

Сама ж апазіцыя ніяк не можа аб'яднацца. А найбольш масавая арганізацыя — Беларускі народны фронт — знаходзіцца на мяжы расколу.

У гэтай сітуацыі на палітычную арэну зноў выходзіць старшыня Вярхоўнага Савета 13-га склікання Сямён Шарэцкі. Прагназуецца, што пасля 20 ліпеня Вярхоўны Савет застанецца адзіным легітымным органам улады, а Шарэцкі пачне выконваць абавязкі кіраўніка дзяржавы. І калі А. Лукашэнка застанецца каля ўлады, створыцца своеасаблівае "двухуладдзе". Аднак невядома, ці прызнае Сямёна Шарэцкага Захад і ці будзе з ім падтрымліваць адносіны. Таму такое "двухуладдзе" пад вялікім пытаннем. Акрамя таго, любое "двухуладдзе" — з'ява небяспечная, бо гэта крок да грамадзянскай вайны...

Здаецца, што палітыкі ў запале барацьбы зусім забываюцца пра народ. А ён, дэзарыентаваны і даведзены да галечы, пакуль маўчыць. Большасці беларусаў усё роўна, хто імі кіруе, і ці мае ён легітымнасць. Галоўнае, каб жыццё паляпшалася, каб цэны не скакалі ўверх, каб грошы, хоць і мізэрныя, але рэгулярна выдавалі. А апошнім часам грамадства зноў пачаў апаноўваць страх, пра які мы ўжо пачалі забывацца. Людзі баяцца... А тая меншасць, якой не абыякавы лёс краіны і якая прагне зменаў, нічога не можа зрабіць. Гэтыя людзі маглі б выказаць сваю пазіцыю на свабодных і дэмакратычных выбарах, але калі будуць тыя выбары?!

Такім чынам ліпень абяцае быць гарачым. І не толькі для беларускіх палітыкаў. Большасць беларусаў па-ранейшаму будуць "змагацца" на сваіх лецішчах. Працы там хапае...

**Сяргей ЁРШ**

**ПРАШУ СЛОВА**

## Крыўдзяць пенсіянераў

У калгасе "Уперад", дзе жывуць мае бацькі, вясной заступіў на пасаду новы старшыня калгаса. І адразу ж новая мятла, як кажуць, па-новаму замяла. Вось і ён пры дзяльбе сотак раздзяліў калгас на працуючых і пенсіянераў. Працаўнікам даў соткі ў адным месцы, а пенсіянерам — у другім, горшым. Прыйшлося садзіць бульбу — таксама бяда. Маладыя пасадзілі ў траўні, а пенсіянеры дзесьці 10-11 чэрвеня. Гэта ўсё сцярпелі. Цяпер людзі, заплаціўшы грошы, чакаюць, каб ім трохі гэтыя соткі абрабілі. Ды дзе там! Зноў трэба браць бутэльку, якая пры мізэрнай пенсіі каштуе вельмі дорага, і прасіць трактарыста, каб зрабіў на сотках усё, як след. А не — дык зарастуць тыя пару баразён, як луг.

**Святлана БОЛЦІК**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947
ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем:
231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............2-14-39
.............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://www.irex.minsk.by/gs

Падпісана да друку
7 ліпеня 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана
ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 7.300 экз.
Заказ № 1859

 



НАРЫС

# У НЕТРАХ БУДЗЁНАСЦІ

### З горада

Гарачыня. У міжгароднім аўтобусе ў пятніцу поўна людзей. На праходзе ля дзвярэй стаіць дзяўчына, на выгляд студэнтка, з дзвюма вялікімі сумкамі побач. Аўтобус вось-вось павінен адправіцца. Дзяўчына доўга вагаецца, нарэшце пытае ў шафёра: " Можна мне пад'ехаць на Брэсцкую?..". Распараны вадзіцель злосна адказвае: "Вунь таксі стаяць. Давязуць куды трэба...". Студэнтка моўчкі бярэ аграмадныя валізкі і ледзь цягне іх да бліжэйшага там прыпынку гарадскога транспарту.

Аўтобус кранаецца. На газаправодзе — запланаваны прыпынак. Чакае натоўп пасажыраў. Дзверы адчыняюцца і ... — Куды лезеце, дайце выйсці, — загарадзілі праход дзве мажныя жанчыны. Гэтыя кабеты не пыталіся і не будуць пытацца дазволу пад'ехаць — навучаныя жыцьцём.

А тым часам новыя пасажыры спяшаюцца заняць абмежаваную прастору ў салоне "Ікаруса". Штурхаюць адзін аднаго, штурхаюцца. Духата. Потныя целы... Хутчэй бы праехаць гэтыя 25 км да вёскі.

### Вёска

Вёска ў гарачае лета — хутчэй пекла, чым аазіс (не блытаць са слонімскім барам). Ва ўсякім разе для працаўнікоў на зямлі.

У кабіне трактара "Беларусь", — як у закрытай вечкам патэльні. Да таго ж, пыл лезе ва ўсе шчыліны, а кандыцыянер (калі і працуе) толькі пераганяе туды-сюды гарачае паветра, аніяк не даючы палёгкі трактарысту. Магчыма, гэта таксама з'яўляецца адной з прычын таго, што ў большасці механізатараў твары маюць зямліста-попельны колер.

Але наўрад ці лягчэй прыходзіцца паляводам і ўсім тым, хто працуе на полі ці сенажаці. Летам тут сезонны фронт работы: буракі, бульба, сена.

### Буракі

На працаздольную жанчыну калгас выдзяляе дзялку буракоў у 13-17 радкоў даўжынёй 400-450 метраў. Тым, хто з цяпкай працаваў на бурачным полі, добра вядомы ўсе радасці гэтай працы. На такой "плантацыі" яе хапае ўсёй сям'і ад старога да малога і гарадскім сваякам, калі такія ёсць.

Збіраючыся палоць буракі, абавязкова трэба падрыхтаваць сваю прыладу працы — цяпку. Яна павінна быць вострай. Гэта найперш аблягчае працу. Па-другое, з трох-пяці інструментаў, якія звычайна маюцца на сялянскім падворку, важна правільна размеркаваць цяпкі паміж удзельнікамі прапалачнай кампаніі. Пры гэтым трэба ўлічваць вагу і памер інстумента і ўзрост яго карыстальніка адпаведна. Калі цяпкі падрыхтаваны, важна абраць правільную тактыку прапалкі. На першы погляд здаецца, што тут усё зразумела: станавіся ракам і наперад. Але доўгага згібання ўдвое не вытрымлівае спіна. Таму ёсць яшчэ два спосабы прапалкі — "упрысядку" і "на каленях". Калі іх чаргаваць, то здаецца, што працуецца лягчэй. Па-магчымасці трэба выбіраць аптымальны час сутак для працы. У спёку на поле лепш не выходзіць. Калі ўстаць у гадзін чатыры раніцы, а ў пяць ужо быць на полі, то да дзесяці гадзін працуецца найлепш: не так горача і арганізм адпачыўшы. Другі выхад на дзялку лепш рабіць пад вечар, калі спадзе гарачыня. І галоўнае, полючы, не трэба думаць пра ўзнагароду. За прапалку заўсёды плацілі мала. Затое восенню, калі буракі вырастуць, будзе "працэнт" і для ўласнай гаспадаркі.

### Бульба

Бульба — тэма асобная, можна сказаць сакральная для беларуса. На адной шостай частцы сушы, што складала прасторы былога СССР, нас і цяпер ведаюць як бульбашоў, бульбаедаў. У Беларусі склалася свая традыцыя і культура вырошчвання бульбы. Умоўна яе можна назваць калгаснай. Не таму, што калгасы шмат зямлі адводзяць пад гэту культуру, а таму, што кожны год калгаснікам выдзяляюцца на калгасных землях соткі пад бульбу. Соткі для селяніна — аснова прыбытку ў прыватнай гаспадарцы. Калі добра ўродзіць бульба — будзе корм для свіней і іншай хатняй жывёлы і для сябе і на продаж, ды і лішкі самой бульбы можна збыць. Таму вяскоўцы вельмі сур'ёзна ставяцца да месца выдзялення сотак. І хаця гэта пытанне вырашае праўленне калгаса ці саўгасная адміністрацыя, чалавек часам скардзіцца на "дрэнныя" соткі старшыні гаспадаркі, а то і раённаму начальству. Бо, фактычна, цэлы год жыве з сотак.

У тэхнічным плане цяпер вырошчваць бульбу лягчэй, чым некалькі дзесяцігоддзяў таму. Пасадка, апрацоўка і ўборка праходзяць арганізавана, калгаснай тэхнікай. І хоць з калгаснікаў за ўсё вылічваюць грошы, а самі яны "ставяць" трактарыстам барышы і губляюць нервы, бегаючы восенню за бульбакапалкай, — гэта ўжо традыцыя, што стала нормай сялянскага жыцця. Сёння можна з упэўненасцю сказаць, што селянін трымаецца за калгас, як за свае соткі. Большасць вяскоўцаў альтэрнатывы калгасам не бачыць і не жадае бачыць.



Фота IREX/ProMedia

### Сена

Колькі вершаў, песень і лірычных адступленняў у прозе напісана пра сенакос!.. Тамы. І тэма гэта будзе актуальнай да той пары, пакуль у нас будзе існаваць жывёлагадоўля па-калгаснаму.

Тое, што цяпер гараджане займаюцца нарыхтоўкай кармоў у калгасах і саўгасах — чарговае трызненне некага "зверху". Рабочыя, дактары і службоўцы з косамі патрэбны на вёсцы не больш, як сабаку пятая нага. Людзей і тэхнікі ў гаспадарках пакуль хапае, каб забяспечыць жывёлу кармамі. Іншая справа — было б што касіць. Сёлета вясна вымаразіла, а сухі, гарачы чэрвень спаліў травы перш шага ўкосу. Відавочна, гэта пацягне за сабой скарачэнне пагалоўя грамадскага статка, калі да канца лета не вырасце атава.

У селяніна галава больш баліць не за калгасных парголь. Як назапасіць сена для сваёй каровы — вось галоўны клопат селяніна ў сенакосную пару. У гэтай справе найбольш распаўсюджаным з'яўляецца дзедаўскі спосаб: на раніцу, з расой, добра косяцца як прысядзібныя залужэнні, так і розныя няўдобіцы і канавы. Праўда, нашы людзі часам ухітраюцца там-сям павыкошваць і калгасныя ўгоддзі. Ці з тайнага дазволу калгаснага брыгадзіра, а то і самахоць, у глухім месцы. Механізатары, якія заняты на калгасным сенакосе, знаходзяць магчымасць "урваць" сена для сваёй кароўкі з дапамогай тэхнікі. Начальства на такія "свавольствы" глядзіць, як правіла, праз пальцы. Бо тыя, хто парыцца ў кабінах трактароў ад зары да зары, складаюць працоўную эліту гаспадаркі. І ім таксама трэба жыць "не на зарплату"...

Тым, хто не можа самастойна паклапаціцца пра корм для сваёй жывёлы, застаецца толькі спадзявацца на дзялку сена, якую выдзеліць калгас. Звычайна тое сена перастаялае, пабывала пад дажджом пасля доўгай засухі і больш нагадвае салому. Натуральна, скаціна такі корм упарта не хоча есці. А бывае і пашанцуе. Дзялка трапіцца добрая і ў пару... Але толькі не ў гэтым годзе.

### Адпачынак

Адпачынак у значэнні пакінуць на выхадныя дні будзённыя справы і заняцца нечым прыемным для сябе большасці з нас можа хіба толькі сніцца.

Гараджане ў выхадныя ратуюць на лецішчах грады ад высыхання і пустазелля, а ў вяскоўцаў летам выхадных проста не бывае — дзень год корміць. Праўда, гараджане могуць дазволіць сабе пазагараць на мясцовых пляжах, асабліва моладзь. Ды гэта выключэнне, а не правіла.

З адпачынкам нашы людзі атаясамліваюць розныя святы, якія ініцыіруюцца ўладамі. Такія як дзень горада, вёскі, Купалле, зажынкі, дажынкі і падобныя, абавязковым атрыбутам якіх з'яўляюцца масавыя гулянні. Шматлюднасць гэтых мерапрыемстваў абумоўлена не зацікаўленасцю ў іх людзей, не святочнай урачыстасцю, якая яшчэ бывае на Каляды ці Вялікдзень, а прадчуваннем масавай алкагольнай эйфарыі. Алкаголь кансалідуе людзей там, дзе адсутнічае агульная ідэя, ці, як сказаў бы філосаф, — ідыялогія. А старыя людзі кажуць, што так, як п'юць цяпер — не пілі ніколі. Сапраўды, для нас адпачынак без бутэлькі — гэта не адпачынак.

### Назад

Нядзеля. Спёка, духата. У стары задымлены "ЛАЗ" набіваецца поўна народу. Трэба вяртацца ў горад. Рознага памеру сумкі запаўняюць праход — гэта рэальная дапамога вёскі гораду прадуктамі харчавання. "Мы і гарадскія, мы і вясковыя,"— пісаў паэт. А вось зайздросціць няма каму. Пасля выхадных на тварах людзей ляжыць адбітак хранічнай стомы. Толькі моладзь яшчэ здольна на жарты і смех. Хацелася б верыць у іх аптымізм. Бо гэта ім, сённяшнім маладым, давядзецца разграбаць у трэцім тысячагоддзі беспрасветную будзёнасць нашага жыцця.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ЗДАРЭННІ

## Ахвяры вады

**На Альбярцінскім возеры патануў 38-гадовы прапаршчык адной са слонімскіх часцей.**

Яго цела было знойдзена на наступны дзень. Ваенная пракуратура праводзіць расследаванне.

5 ліпеня ў Шчары патануў 34-гадовы жыхар вёскі Чапялёва. Па словах начальніка слонімскай выратавальнай станцыі Васіля Кулака, двухдзённыя пошукі тапельца былі безвыніковыя, і на шостага ліпеня яго яшчэ не знайшлі. Дарэчы, у тым самым месцы раней ужо патанула чатыры чалавекі.

**Алег ТАЧОНЫ**

## Маланка забіла кароў

**Няшчасны выпадак здарыўся ў саўгасе "Сасноўка" падчас навальніцы.**

У статак саўгасных кароў, якія знаходзіліся на пашы, стукнула маланка. Ад яе пацярпелі адзінаццаць кароў, якіх хутка прыйшлося дарэзаць і здаць на Слонімскі мясакамбінат. Пра гэта карэспандэнту "ГС" паведаміў інжынер саўгаса Андрэй Лапко.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

НАВІНЫ

## Будут ли у нас суды присяжных?

**Палата представителей Национального собрания Беларуси приняла во втором чтении проект Уголовно-процессуального кодекса (УПК).**

Новый кодекс призван заменить ныне действующее уголовно-процессуальное законодательство, принятое еще в 1960 году. По словам разработчиков проекта, новый УПК, наряду с большинством норм, доказавших свою правоприменительную жизнеспособность, содержит ряд новых положений. Так, в нем расширены функции прокурорских работников, более детально прописаны права подозреваемых, обвиняемых, потерпевших и иных участников уголовного процесса.

Среди нововведений следует также выделить введение в уголовно-процессуальную практику института присяжных заседателей. Суд присяжных заседателей, согласно проекту, может рассматривать уголовные дела по преступлениям, за совершение которых грозит смертная казнь, если обвиняемый не признает своей вины и заявит ходатайство о назначении суда присяжных. В состав суда в этом случае будет входить судья и семь присяжных заседателей. При этом, как указывается в проекте, одно и то же лицо не может участвовать в уголовном процессе в качестве присяжного заседателя более одного раза в год. Еще одно новшество — введение в судах должности судебных приставов, которые будут следить за поддержанием порядка во время судебных заседаний. Предполагается, что до принятия соответствующего закона эти функции будут выполнять действующие судебные исполнители.

Следует отметить, что против включения в УПК данных новаций высказалось главное государственно-правовое управление администрации президента, которое считает введение института присяжных заседателей и должности судебных приставов преждевременным. Однако, по мнению большинства депутатского корпуса, введение в уголовно-процессуальную практику суда присяжных соответствует статье первой Конституции, где Беларусь провозглашается правовым государством. Кроме того, как считают парламентарии, суд присяжных является наиболее прогрессивной формой осуществления правосудия, принятой в большинстве демократических стран. Депутаты напомнили и о том, что отмена смертной казни и введение суда присяжных является одним из условий вступления в Европейский Союз. В результате, данные нормы в кодексе были сохранены, и в таком виде он уже в ближайшее время поступит в верхнюю палату Национального собрания. Правда, не исключено, что даже после одобрения нового проекта Советом Республики, глава государства, по уже сложившейся в Беларуси юридической практике, может подписать закон, исключив из него отдельные положения. В таком случае отвергнутые президентом нормы вновь возвращаются в парламент для доработки.

**БелаПАН**

АДКАЗВАЕ ЮРЫСТ

## Хотела как лучше...

***Свою приватизированную 1-комнатную квартиру я обменяла на неприватизированную 2-комнатную. Чеки, естественно, уже использованы. А как теперь приватизировать квартиру, в которой живу?***

**С.Жук, Слоним**

Увы... Если чеки "Жилье" уже использованы, приватизация новой квартиры возможна только на возмездной основе и в ценах, действующих на момент приватизации. При этом, оплата стоимости квартиры может производиться в рассрочку на 40 лет при условии внесения первоначального взноса в размере не менее 10% стоимости.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

 

НАШЫ ГОСЦІ

## Здзіслаў Станкевіч:

# "У БУДЫНКУ, ДЗЕ ЦЯПЕР МІЛІЦЫЯ, ДА ВАЙНЫ БЫЛІ ГАСЦІНІЦА І РЭСТАРАН"

Былы слонімец, а цяпер жыхар польскага горада Слупска Здзіслаў Станкевіч наведаў родны горад. Дарэчы, наша газета некалькі разоў публікавала яго артыкулы на гістарычныя тэмы. У гэтыя дні спадар Станкевіч пабываў у рэдакцыі "ГС" і адказаў на пытанні нашага карэспандэнта.

***— Спадар Станкевіч, а дзе Вы жылі ў Слоніме да вайны?***

— Мы жылі на Студэнцкай вуліцы. У лютым 1940 года да нас у хату завіталі супрацоўнікі НКВД, далі некалькі хвілін на зборы, пасадзілі ў цягнік і адправілі ў Казахстан. Адтуль праз пэўны час мы пераехалі ў Варшаву, а пасля вайны — у Слупск.

***— Якім Вам запомніўся Слонім 30-х гадоў?***

— Значна прыгажэйшым і багацейшым, чым сёння. У Слоніме тады было больш за 180 крамаў. Дзе цяпер магазін "Кнігі" на Першамайскай вуліцы, у той час знаходзіўся прыватны кінатэатр "Мадэрн", а дзе цяпер міліцыя — там былі гасцініца "Вікторыя" і рэстаран "Пад гадзіннікам". Каля рэдакцыі "Газеты Слонімскай" працавалі прыватныя тэкстыльны, веласіпедны, водаправодны, электрычны і іншыя магазіны.



*Спадар Станкевіч каля касцёла Св. Андрэя*

***— Няўжо Вам сёння не падабаецца Слонім?***

— Сёння горад даволі чысты. Прыгожа і модна апрануты слонімскія жанчыны. Але сам горад вельмі запушчаны. Вуліцы ў калдобінах. Па іх рухаюцца груды металалому, а не аўтобусы. Самая, бадай, найвялікшая бяда ў тым, што паціху разбураюцца гістарычныя архітэктурныя помнікі горада. Гэта сінагога, асабняк на Савецкай вуліцы, былы народны дом на вуліцы Крайняга, а парку ў Слоніме зусім няма, так, як і няма помнікаў знакамітым землякам. Мае сябры ў Польшчы вельмі хочуць прыехаць на экскурсію ў Слонім, але што я ім тут пакажу?

***— Спадар Здзіслаў, з кім, акрамя журналістаў "Газеты Слонімскай", Вы яшчэ сустракаліся?***

— За два тыдні я наведаў Гродна і Мінск, а таксама пабываў у Жыровічах. У Гродне я гутарыў з польскім консулам, у абласным архіве знайшоў атэстат сталасці сваёй маці і цёткі, а ў Мінску сустракаўся з гісторыкамі Адамам Мальдзісам і Леанідам Акаловічам. Больш часу правёў у Слоніме. Наведаў краязнаўчы музей і музей у СШ №4, гутарыў з пані Рэўкоўскай, са старшынёй гарсавета Угрыновічам і з іншымі слонімцамі. Ад адных сустрэч і гутарак я атрымаў задавальненне, ад іншых — не. Некаторыя чыноўнікі да ўсяго адносяцца абыякава і скептычна, так жыць і працаваць нельга.

**Гутарыў Сяргей ЧЫГРЫН**

І ТАКОЕ БЫВАЕ

# ЗНАЙШОЎ ГРОШЫ, ДЫК МАЎЧЫ

Жыхар расійскага горада Іванава Мікалай Батурын тыдзень быў у камандзіроўцы ў Слоніме на камвольна-прадзільнай фабрыцы. Настала пара вяртацца дамоў. Цягнік на Мінск адпраўляўся ноччу, таму яшчэ быў час, каб сабраць рэчы. Правяраючы шуфляды стала, ён адну з іх выпадкова выцягнуў цалкам, а ўстанавіць зноў не атрымлівалася. Калі Мікалай памацаў гняздо шуфляды рукой, то адчуў, што там нешта ёсць. Спачатку выцягнуў адтуль цэлы стос расійскіх грошай, а потым і пашпарт на імя Артура Мікалаевіча Жабаноса.

Пасля некалькіх мінут роздуму Батурын патэлефанаваў адміністратару гасцініцы "Шчара".

— Я знайшоў чужы пашпарт, — сказаў ён.

— А чаму гэта вы заяўляеце мне? — спытала адміністратар.

— А каму, калі нехта з гасцей пакінуў яго, — адзначыў Батурын.

— Як прозвішча? Жабанос? Добра, я пагляджу сярод тых, хто з'ехаў... Не, не жыў...

Пасля таго, як на другім канцы провада паклалі трубку, Батурын вырашыў бліжэй пазнаёміцца з уладальнікам пашпарта. Высветлілася, што ён з Кіева, але штамп сведчыў аб тым, што па ўказаным адрасе мужчына выпісаўся. Шкадуючы, што нельга выслаць пашпарт уладальніку па пошце, Батурын набраў нумар дырэктара гасцініцы.

Дырэктар сказала:

— Цікава атрымліваецца! Горнічная прыбірала нумар і не знайшла... Першы раз чую, каб госць знаходзіў у нумары чужы пашпарт на шосты дзень пражывання. У такім выпадку, чаму вы пяць дзён маўчалі?

Батурын не ведаў, што адказаць.

— У якім нумары вы жывяце? — запытала дырэктар і паклала трубку. Пачуццё падазронасці заставіла яго захвалявацца.

— Яны што, усе з розуму выжылі, ці што? — падумаў Батурын. — Я проста шкадую гэтага Жабаноса. Магчыма, цяпер ён мае шмат непрыемнасцей.

Прыйшла новая думка: навошта чалавек так старанна схаваў пашпарт і навошта яго пакінуў? Адчуваючы, што іншага выйсця няма, Мікалай патэлефанаваў у міліцыю. І зноў пашкадаваў, што зрабіў гэта.

— Пашпарт?... У гасцінічным нумары? Сёння прыехалі? Дык чаму цэлых пяць дзён трымалі яго? І чаму горнічная не знайшла, хіба яна не прыбірала нумар?

Мікалай Батурын спакойна падрабязна расказаў усё па парадку.

— Добра, — сказаў дзяжурны і параіў яму прынесці пашпарт у дзяжурную часць міліцыі, папярэдне напісаўшы заяву аб знаходцы.

Гэта яшчэ больш занепакоіла Батурына, і ён вырашыў кінуць пашпарт у паштовую скрынку.

Батурын хуценька апрануўся, паклаў чужы пашпарт у кішэню і выйшаў. Дзе ў Слоніме знаходзіцца паштамп, ён запытаў у жанчыны. Паглядзеўшы навокал, дастаў з кішэні пашпарт Жабаноса і апусціў яго ў паштовую скрыню.

Батурын вырашыў, што ўсё зрабіў правільна. Тым не менш, нешта агіднае і сарамлівае яго непакоіла. Можа з-за таго, што пакінуў сабе той стос расійскіх грошай. Хоць да адпраўлення цягніка заставалася шмат часу, ён вырашыў ісці на вакзал.

Гэту гісторыю я пачуў ад самога Мікалая ў купэ цягніка Гродна-Жлобін, калі ехаў у Мінск.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

# МИНСК ОЧЕНЬ ТОРОПИТСЯ

*(Начало на стр.1)*

Это обусловлено следующим: «У россиян, особенно у руководства.., появляется некое впечатление о том, что мы сегодня слезли в Беларуси с деревьев, там сгрызли всю кору на вершинах этих деревьев, листья поели, сегодня питаемся неизвестно чем, и мы рвемся, лишь бы только объединиться с Россией». По словам главы белорусского государства, это неправильное представление, оскорбляющее национальное достоинство белорусского народа.

«Неужели вы думаете, что я буду держать свою страну, — уже пять лет это происходит, — в подвешенном состоянии. Вроде и России мы сегодня не нужны, протягиваем руку и получаем с той стороны камень в эту руку, и испортили отношения с Западом...» Как отметил Лукашенко, он уже отдал распоряжение Министерству иностранных дел «о налаживании самых добрых тесных отношений со всеми нашими соседями, в том числе и с западными государствами». «Мы допустили капитальную ошибку, декларировав многовекторность нашей политики, и на самом деле сделали дикий крен на Восток, и в результате очень и очень многое можем потерять в перспективе», — заявил президент Беларуси. Изменение этого положения, по его словам, является вынужденной политикой, иначе он «поступить не может».

Скорее всего, такое непривычно грозное выступление главы белорусского государства можно объяснить лишь его желанием шантажировать Москву — мол, если отвергаете мои условия интеграции, я переориентируюсь с Востока на Запад. Почему Лукашенко отважился на такой невероятный, на первый взгляд, шаг именно сейчас можно предполагать. Главное здесь — быстробегущее время. И дело не только в факторе 21 июля. Социологические опросы населения Беларуси показывают, что сама идея объединения Беларуси и России в одно государство постоянно теряет в глазах опрошенных свою былую привлекательность. В чем тут дело? Это тема для особого исследования. Но, похоже, что, как и в приснопамятном примере введения единых денег времен Вячеслава Кебича, люди просто устали ждать обещанных благ. Отсюда и реальная угроза прокатить «батьку» на ближайших выборах, как это случилось с Вячеславом Францевичем в 1994-м.

Да и зима не за горами. А она обещает быть очень и очень непростой. Летняя засуха, похоже, сведет сбор кормов до минимума, избрание Черномырдина на высокий пост в «Газпроме», усиление позиций Чубайса в РАО «ЕС» — эти и другие факторы обещают массу неразрешимых проблем для белорусской экономики. Понятно, что, объединившись с Россией, можно будет содержать убыточное белорусское хозяйство, как говорится, по полной программе за счет восточного соседа. А если интеграционные порывы к этому времени не дадут результата? Думать о такой перспективе страшно.

Вот почему Лукашенко вынужден спешить. А спешка, как известно, делу помеха. В таких обстоятельствах иногда можно сказать и лишнее, как это случилось, к примеру, 30 июня. В этот день Александр Григорьевич в беседе с журналистами открыто признался в том, что, если будет Союз Беларуси и России, то он готов потягаться с Борисом Николаевичем за пост союзного президента. Это высказывание объясняет и предыдущие заявления Лукашенко о том, что он не претендует на пост президента России. И в самом деле, как ехидничают по этому поводу российские «Известия», «...да и зачем ему (Лукашенко) Россия, если можно стать главой сразу двух восточнославянских государств?»

Предложение и впрямь заманчивое. Если главу нового государства будет избирать все население только из двух нынешних президентов, то прогнозировать исход таких выборов несложно — молодой и здоровый изначально лучше старого и больного. К тому же проект союзного объединения дает его главе массу преимуществ. Он командует всем и всеми, а за конкретные результаты отвечают два вице-президента: белорусский и русский. В случае чего на них всегда можно будет списать все просчеты, включая собственные. Словом, ситуация из тех, о которых говорят однозначно, — беспроигрышная.

В ее реализации президент Беларуси надеется на парламентские структуры России. Но ни Дума, ни Парламентское собрание Союза Беларуси и России, которые и рады были хотя бы таким способом свалить нелюбимого ими Ельцина, в этом ему, похоже, плохие помощники. По причине собственного незначительного влияния в координатах российской власти. Что касается высшей палаты — Федерального собрания, то здесь немало людей, которые полагают, что сверхинтеграция с Беларусью вызовет у ряда субъектов Российской Федерации желание уравняться правами с Минском, потребовать для себя статус, равный белорусскому, что в свою очередь может привести к расколу в РФ.

В Кремле все это видят и понимают. И потому так тщательно взвешивают каждый шаг, потому и не проявляют особой прыти, что особенно раздражает Александра Лукашенко. Советники и помощники Бориса Ельцина просчитывают ситуацию. И скорее всего, она может им видеться так: с одной стороны, интеграция с Беларусью дает российскому президенту возможность обойти самый сложный камень на его пути в «третье президентство». Это, понятно, плюс. И немалый. Но есть куда больше минусов. Это и упоминавшаяся уже позиция ряда руководителей российских регионов, и неизбежные вливания в белорусскую экономику, и падение имиджа Москвы в глазах мирового сообщества, и еще многое другое. Поэтому, думается, Кремль и придерживается до сих пор своей выжидательной тактики.

Хотя, возможно, белорусского президента просто заставят исключить из проекта союзного Договора некоторые наиболее радикальные пункты, после чего предложат подписать документ. Более того, в политических кулуарах в Минске ведутся разговоры о том, что документы о создании единого государства могут быть подписаны в Москве 20 июля. Похоже, в этом, как говорится, что-то есть. По крайней мере, в ответ на шантаж из белорусской президентской резиденции в Кремле могут пригрозить отказом от подписания до истечения легитимности Александра Лукашенко. Как говорится, око за око, зуб за зуб.

**Владимир ГЛОД**

